# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217

1970 Цана 1 даляр

№ 32 СЬНЕЖАНЬ — DECEMBER ГОД 16


**БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ**
**СЬВЯЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ**

**Да ўсечаснога Духавенства, прападобнага Манаства, і ўсіх Багалюбных Вернікаў нашых на чужыне й на Бацькаўшчыне.**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

„Бо так узьлюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае". (Ін. 3, 16)

**Дарагія Браты й Сёстры ў Хрысьце!**

Міласэрны Стварыцель Сусьвету Госпад Бог наш стварыў чалавека подля вобразу й падабенства Свайго; і калі чалавек зграшыў ад спакусы Духа зла, Ён не пазбавіў яго Міласьці й Ласкі Свае. Сёньня Міласьць і Ласка Божая вобразна перад намі адкрываецца праз Божае уцелаўленьне.

Ад Нараджэньня Хрыста ўплыло ўжо блізу дзьве тысячы год, але падзея гэтая й сёньня ўспрымаецца таксама радасна, як і ў той час. І ніякая сіла ня зможа зьменшыць або замяніць для хрысьціянскага сьвету гэтую Найвялікшую Сьвятасьць. Бляск Віфлеемскае Зоркі, што прывяла мудрацоў да народжанага Дзіцяткі, і цяпер духова асьвятляе сэрцы вернікаў, накіроўваючы іхныя думкі да Хрыста, і ніякая сіла цемры ня можа яго зацямніць, бо Хрыстос ёсьць сёньня, заўжды, усячасна і павек вякоў.

Нараджэньне Хрыста ад Прасьвятое Дзевы ў гэтую Сьветлую Ноч было абвешчана сьпевам Ангелаў: „Слава ў вышынях Богу, а на зямлі мір, між людзей волі добрае" (Лук. 2, 14), абвяшчаючы гэтым ад вякоў існуючую Тайну, што Сын Божы зышоў на зямлю, каб прынесьці людзям супакой і збаўленьне ды ўчыніць іх годнымі да атрыманьня Ласкі Божае.

Сын Божы зьявіўся на сьвет бяспомачным Дзіцяткам, у халоднай пячоры, у нявыгодзе, цярпеньні, сярод бедных людзей, каб перажыць усе нягоды людзкія, перацярпець беды й смуткі ды потым праз Укрыжаваньне прыняць найвялікшую пакуту, як адкупленьне за грахі людзкія.

Сын Божы стаўся чалавекам, каб нас зрабіць сынамі Божымі. Стаўся слабым Дзіцяткам, каб нас зрабіць моцнымі духам; стаўся малым, каб нас зрабіць вялікімі; стаўся бедным, ляжаў у яськлях, каб нас зрабіць багатымі; заплакаў, як дзіцятка, дзеля таго, каб мы ня плакалі; ня меў дзе галавы прытуліць, каб мы маглі павек вякоў радавацца ў Валадарстве Славы Ягонае; аддаў Сябе ў рукі паганаў, „каб праведнікі ўладалі зямлёю і жылі на ёй павекі" (Пс. 36, 29).

У Сваім зямным жыцьці і ў Сваёй навуцы Хрыстос часта прыпамінаў людзям, што на зямлі ўсё часовае і ўсё сьмяротнае, а несьмяротная ў чалавеку — толькі душа ягоная. І спасылаючы людзям Сваю Міласьць і Ласку, Ён не разрозьніваў людзей, і кажнага чалавека прыймаў роўна, ня глядзя на ягонае багацьце ні на грамадзкае становішча, бо ніякае высокае становішча між людзей само сабой не прыбліжае чалавека да Бога, а беднасьць ці прыгнечанасьць не аддаляе. У Бога ўсе роўныя. „Шукайце перш Валадарства Божага й Праўды Ягонае, а ўсё іншае дадасца вам" (Мац. 6, 33). Гэта словы Хрыста Спаса.

Кожны з нас на працягу свайго жыцьця адчуваў у Сьвяты Калядны Вечар радаснае задаваленьне, а душу напаўнялі веліч і прыгожасьць гэтага Вялікага Здарэньня. А гэта таму, што не надарэмна прышоў Сын Божы на зямлю: Ён пакінуў на ёй палымяныя Свае Запаветы, якія разаграваюць чалавечую душу; пакінуў Сьвятло, што ў цемры сьвеціць і навучае людзей; даў людзям Сваю Царкву. Даў і нам Сваё Цела й Кроў, каб для жыцьця вечнага мы спажывалі Яго.

Сам Хрыстос сьцьвярджае мэты Свайго зыходу на зямлю гаворачы: „Агонь прышоў Я кінуць на зямлю, і як хацеў-бы, каб ён ужо загарэўся! Хрышчэньнем павінен Я хрысьціцца, і як Я тамлюся, пакуль гэта станецца!" (Лук. 12, 49-50).

Гэткі шлях змаганьня з сусьветным злом на зямлі прайшоў Хрыстос, ад Свайго Нараджэньня і аж да мукаў і сьмерці на крыжы, дзеючы словам і чынам, прапаведваючы аб любові, пакоры, лагоднасьці й самаахвярнасьці.

Дзеля гэтага ўсе хрысьціяне добрае волі, у якіх бы ні былі цяжкіх жыцьцёвых абставінах, павінны ўзмацняцца духова, радавацца з пастушкамі й мудрацамі. „І няхай уладарыць у сэрцах вашых мір Божы, да якога вы пазваныя ў адзіным целе" (Кал. 3, 15).

ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЁСТРЫ! Ключ да згоды, да братэрскае любові Хрыстос даў нам у запавеце — „любі бліжняга свайго, як самога сябе". У вялікай меры залежыць ад нас згода ў сем'ях, любоў і сяброўская зразумеласьць, калі мы будзем выконваць Запаветы Хрыста. Каб быць добрым мастаком, трэба заўжды працаваць над сабою, і каб быць добрым хрысьціянінам, гэтак сама трэба працаваць над сваім характарам. І гэтых міралюбных працаўнікоў Сын Божы й абдарае годнасьцю Божага сыноўства. Таму будзьма апосталамі згоды. Перадусім зробім парадак у сваёй душы, адхілім усе перашкоды, да згоднага жыцьця зь іншымі людзьмі. Будзем весьнікамі міру. Тады станемся дзяцьмі Божымі ня толькі на зямлі, але гэтак сама ў вечнасьці.

Гэта нашыя Калядныя пажаданьні Вам. Няхай у гэты Вялікі Дзень цешацца й радуюцца душы Вашыя, бо нарадзіўся Той, пра Якога ўжо прарок Даніель гаварыў: „Яму дадзена ўлада, слава й Валадарства, каб ўсе людзі й народы служылі Яму. Валадарства Ягонае — Валадарства вечнае" (Дан. 7. 14).

З гэткаю Вераю, Любоўю й Надзеяй на Нованароджанага Госпада Бога й Спаса нашага вітаем Вас, усечасныя Айцы й любыя Браты й Сёстры, з Вялікім і радасным Сьвятам НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТОВАГА і з надыходзячым НОВЫМ 1971 ГОДАМ, пасылаем Вам нашае Архіпастырскае Багаславенства і просім Нованароджанага Сына Божага, каб узмоцніў Вашыя сілы, паслаў здароўе, згоду ў рэлігійным і грамадзкім жыцьці, напоўніў радасьцю й пацехаю душы Вашыя ды злучыў духова з Родзічамі ў паняволенай Бацькаўшчыне!

Ласка й мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі. Амін.

Дадзена Лета Божага 1970, месяца сьнежня
Аўстралія, Амэрыка, Канада.

**✠ Зьмірэнны Архіепіскап Сергій**
**✠ Зьмірэнны Архіепіскап Андрэй**
**✠ Зьмірэнны Епіскап Мікалай**

# ✠ СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ ВЫСОКАПРААСЬВЯЧЭНЬНЕЙШЫ АРХІЕПІСКАП ВАСІЛЬ



З Волі Божае адыйшоў у Вечнасьць Архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыка Васіль. Сьмерць спасьцігла нечакана. Памёр 6-га чырвеня і 17-га чырвеня, пры вялі-

кім зьезьдзе вернікаў, быў праводжаны на месца супакаеньня на Беларускім Магільніку ў Іст Брансвіку, у штаце Нью Джэрзі. Пахавальныя Службы адправілі і ў астатнюю падарож праводзілі — Епіскапы Андрэй і Мікалай, іерэй а. Віктар, дыяканы: а. а. Калістрат, Карп і Міхаіл.

Сьмерць Уладыкі Васіля балюча кранула вернікаў БАПЦарквы і ўсё беларускае грамадзтва. Архіепіскап Васіль быў адным з праваднічых Епіскапаў і адміністратарам БАПЦарквы на ЗША й Канаду. На ім ляжаў галоўны цяжар арганізацыі й станаўленьня аднoўленай нашай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі.

Імя ад нараджэньня — Уладзімер Тамашчык, сын заможных сялян Данілы й Марыі (з Жанеўскіх), народжаны 15-га красавіка 1900 году ў вёсцы Вялікія Азяраны, Горадзенскага павету. У гэтым-жа павеце на Горадзеншчыне пражыў да 1915 году, і там атрымаў пачаткавую асьвету й пачаў далейшую навуку.

У часе Першае Сусьветнае вайны ўся сям'я Тамашчыкаў змушаная была падацца ў глыб Расеі й апынулася ў Омску, на Сібіры. Там Уладзімер закончыў сярэднюю асьвету. У 1921 годзе сям'я вярнулася на Бацькаўшчыну асірочанай; памер у Омску бацька Даніла.

Жывучы пад Польшчай, Уладзімер, ня глядзя на цяжкую працу на разбуранай гаспадарцы, знаходзіў час для працы нацыянальнай і далучыўся да змаганьня за волю свайго прыгнечанага народу. За гэта быў суджаны ў польскім судзе й зьняволены з 1927 па 1930 год.

Прагнучы здабыць вышэйшую асьвету Уладзімер Тамашчык у 1930 годзе выехаў у Прагу Чэскую. Там студыяваў агранамічныя й біялягічныя навукі, і ў 1934 атрымаў дыплём інжынера-агранома. Да 1941-га году жыў і працаваў у Празе, і ў той-жа час быў актыўным працаўніком грамадзкім, сярод лічнага беларускага грамадзтва у Празе.

Часы нямецкае акупацыі ў Другую Сусьветную вайну пражыў на Бацькаўшчыне, і пры канцы вайны эміграваў на Захад, як і шмат уцекачоў Беларусаў ад бальшавіцкага тэрору, і затрымаўся ў Нямеччыне.

Пераломным мамэнтам у жыцьці Уладзімера Тамашчыка быў час, калі Епіскапы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, якія таксама былі на эміграцыі й часова спыніліся ў Нямеччыне, здрадзілі сваёй Царкве. Маючы прарасейскае настаўленьне, яны пакінулі сваю Царкву й перайшлі да Расейскай Зарубежнай Царквы. Учынак гэты зрабіў цяжкое ўражаньне на асірочаных вернікаў БАПЦарквы. Былі ўчыненыя захады каб знайсьці Епіскапа, які ачоліў-бы асірочаную Царкву. Такім Епіскапам стаўся Епіскап Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыка

Сяргей. У гэты-ж час і Уладзімер Тамашчык прыняў пастанову прысьвяціцца на Службу Богу й свайму народу. І з гэтай мэтай падаўся на Украінскую Багаслоўскую Акадэмію ў Мюнхене.

Прайшоўшы ў прысьпешаным парадку царкоўныя духоўныя ступені, ужо ў сане Архімандрыта, прыняў нарачэньне ў Епіскапа і 19-га сьнежня 1949-га году быў хіратанізаваны зь імём Васіля. Хіратонію правялі Епіскапы Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Беларускае Царкве Сьв. Мікалая, у месьце Розэнгайме ў Баварыі.

З хіратоніяй архімандрыта Васіля ў Епіскапа сталася адраджэньне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы зь Епіскапамі Сяргеем і Васілём.

Пад канец 1940-х гадоў і ў пачатку 1950-х пачаўся масовы разьезд эмігрантаў з Нямеччыны пераважна ў ЗША і ў Аўстралію. На Саборы Епіскапаў БАПЦарквы было пастаноўлена, што Архіепіскап Сяргей ачоліць Епархію ў Аўстраліі, а Епіскап Васіль возьме пад сваю апеку вернікаў БАПЦарквы ў ЗША, Канадзе й Эўропе. Закончыўшы студыі ў Багаслоўскай Акадэміі з дыплёмам магістра Багасловіі, Уладыка Васіль у 1951 годзе пераехаў у ЗША ў Нью Ёрк, які стаўся цэнтрам Епархіі на ЗША, Канаду й Эўропу.

На мясцох сталага пасяленьня Беларусаў пачалі ўтварацца парафіі БАПЦарквы — у Аўстраліі, ЗША, Канадзе, Ангельшчыне, Бэльгіі. Пры парафіях адчыняліся беларускія школкі. У царкоўных будынках пераважна канцэнтравалася й грамадзкае жыцьцё й праца. Уладыка Васіль, апрача царкоўнай, рэлігійнай працы, заўсёды прымаў удзел у грамадзкай дзейнасьці.

Пад канец свайго жыцьця Архіепіскап Васіль шмат увагі аддаваў знаёмству з філясофіяй. Катэгарычна адкідаючы тэорыю Дарвіна аб паходжаньні чалавека ды іншыя матэрыялістычныя тэорыі, імкнуўся пазнаваць праблемы быцьця, праўды, справядлівасьці, схіляўся да ідэялістычных тэорый. У Яго разуменьні запраўднасьць, рэальнасьць мае духовы зьмест, а не матарыяльны. Абсалютнай рэальнасьцю ёсьць толькі Бог.

Значэньне Царквы ў жыцьці чалавека выказаў у сваіх рукапісных запісах.

„Бог стварыў чалавека подля вобразу й падабенства Свайго: даў яму дух-розум ды свабоду, каб чалавек адчуваў сябе блізкім, родным Яму, ды імкнуўся да Яго, падзяляў радасьць Ягоную; даў яму несьмяротную душу, каб яна пражыла плады таго, што зрабіла на зямлі ў целе. На вялікі жаль, чалавек пачаў жыць пераважна целам, стаўся эгаістычным, напоўніўся гардыняй, зайздрасьцю, зманным самаўзьвялічэньнем, — на душу, на сваё прызначэньне забыўся; і мы пажынаем цяпер плады гэтага фальшывага шляху.

Душа нашая ў глыбінях сваіх бунтуецца супраць гэтага, стогне, плача, але выхаду ня мае, ня бачыць. Дзеля гэтага нашыя велізарныя духовыя магчымасьці засыпаныя, заваленыя, вызваліцца ня могуць, бо ня маюць магчымасьці. Царква, рэлігія ды Вера ў Бога або зьневажаюцца, або ігнаруюцца, або й забараняюцца. Як-жа могуць праявіцца сілы нашага Боскага духу? Каб яны праявіліся, неабходна каб было чаму праявіцца! Неабходна, каб яны былі стала, ад малога, у стадыі росту, дасьпяваньня праз належную навуку ў школе, бо як цела расьце, так і сілы духовыя растуць, цьвітуць, дасьпяваюць, і тады ўжо могуць дзеяць. Але, як для іншых навукаў патрэбны час, так ён патрэбен і для навукаў духовых. Малое дзіця часта робіцца або добрым або злым чалавекам. Вось-жа, каб яно сталася добрым, разумным, багатым духам чалавекам, неабходна даць яму гэтыя магчымасьці, памагчы. А хто тут можа памагчы? Царква й дзяржава, і ў першую чаргу Царква . . .

„Няма на сьвеце ніводнае свабоднае дзяржавы без свае базы духовае незалежнасьці: без свае Сьвятое Царквы, бо яна душа народу й дзяржавы. Вось-жа Царква мусіць быць першым і найбольшым дабром дзяржавы! Бо толькі Царква можа даць дзяржаве добрых, карысных грамадзян; толькі Царква можа чалавека узбагаціць ды навучыць яго належна выкарыстоўваць гэтыя багацьці, а яны бязьмежныя. Чалавек цяпер не выкарыстоўвае ані дзясятай долі сваіх духовых магчымасьцяў, бо амаль нічога ня ведае аб іх.

„О, Божа міласэрны, бясконца добры! Праяві Ласку Тваю да нас: дазволь нашай Сьвятой Царкве стацца такою Царквою Тваею, а нашай Беларусі такою Дзяржаваю, якія будуць у поўнай гармоніі з Табою, каб Сіла Духа Твайго Сьвятога зазьзяла праз наш людзкі дух".

## СЬВЯЧЭННАМУЧАНІК МІТРАПАЛІТ МАКАРЫ

Пасьля сьмерці Мітрапаліта Іоны Глезна, які быў раней Архіепіскапам Полацкім, воляю Акруговага Элекцыйнага Сабору ў 1495 годзе быў выбраны на Мітрапаліта Архімандрыт Віленскага Троіцкага Манастыра Макары.

Згодна летапіснага запісу чын хіратоніі Архімандрыта Макарага ў Епіскапы і ўрачыстае пастаўленьне яго на Мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе тагачаснае Русі правялі: Епіскап Лука Полацкі, Епіскап Васіян Тураўскі, Епіскап Іона Луцкі й Епіскап Васіян Уладзімерскі.

Урачыстасьць пастаўленьня адбылася ў Вільні, дзе Архімандрыт Макары жыў і працаваў, бо Кіеў у тым часе, хоць і ўваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага, быў зруйнаваны татарамі.

Акт пастаўленьня ў Мітрапаліты быў выкананы без папярэдняга багаславенства Канстантынопальскага Патрыярха, так як і на Саборы ў 1415 годзе пры пастаўленьні на Мітрапаліта Грыгора Цамблака. Саборная грамата Беларускіх Епіскапаў ў 1415 годзе выслаўляла:

„На аснове асьвячаньня Сьв. Духа, аднолькава дзеючага на ўсіх праваслаўных Епіскапаў: пастаўленыя ад Самога Госпада Апосталы пастаўлялі іншых, тыя зноў іншых, і такім чынам асьвячаньне Сьв. Духа дайшло й да нас зьмірэнных. І мы, як апостальскія вучні, маем уладу, пасьля шматлікіх дасьветчаньняў, саборам пастанаўляць годнага пастыра сваёй Бацькаўшчыне . . . Хай не падумае хто-небудзь, нібы мы адыходзім ад веры, пастаўляючы самі Мітрапаліта: не, мы не адыйходзім. Наадварот, перададзенае сьв. Апосталамі й сьв. Айцамі мы трымаем і пабожна вызнаём; мы праклінаем усякую ерась, якая ня мае апостальскага й айцоўскага пераданьня, аддаём анафэме і сымонію, што прадае Дары Сьв. Духа за срэбра й золата. Сьвяцейшага Царгародзкага мы прызнаём Патрыярхам і Бацькам . . . І мы, сабраўшыся, ў асьвячаньні, дадзеным нам ад Сьв. Духа, пастанавілі дастойнага Мітрапаліта".

Пасьля выбару Архімандрыта Макарага на Мітрапаліта, прызнаючы зьверхнасьць Канстантынопальськага Патрiярха Ніфонта, па багаславенства для Мітрапаліта былі пасланыя да Патрiярха — старац Дыянізы й манах дыякан Гэрман. Пасланцы вярнуліся разам з патрыяршым паслом старцам Іоасафам, які прывёз ад Патрыярха багаслаўленыя граматы з вялікімі валавянымі пячаткамі: для Аляксандра Казімеравіча — Вялікага Князя Літоўскага Княства, ягонай жонцы княгіні Алене, Мітрапаліту, Епіскапам, князём, баярам і ўсім праваслаўным хрысьціянам.

Мейсцам сталае рэзыдэнцыі Мітрапаліта Макарага была Вільня, як сталіца тагачаснага Вялікага Княства Літоўскага.

Нядоўга суджана было яму выконваць рэлігійныя абавязкі, бо ўжо напачатку спаткала сумная доля гэтага Беларускага Сьвятога.

Мітрапаліт Макары ня быў падобны да тых, што перад небясьпекаю хаваюцца ў бесьпячнейшыя гарады, пакідаючы зруйнаваныя месты, сьвятыні на канчатковую загладу, а вернікаў бяз духовае апекі. Ен ведаў, што на паўдні Вялікага Княства Літоўскага ў тым часе шнырылі татарскія горды. Ведаў, што ў Кіеве жыць небясьпечна ня толькі Мітрапаліту, але й звычайнаму чалавеку. Ведаў, што ў Кіеве ўсе Сьвятыні, асабліва храм Сьв. Сафіі, знайходзяцца ў руінах, што праваслаўныя людзі там бядуюць і блудзяць, як авечкі ў горах без пастуха, аднак вырашыў паехаць у Кіеў, каб навесьці там парадак у царкоўным жыцьці. Ён не пабаяўся вялікае небясь-

пекі, не пабаяўся варожых татарскіх нападаў — для яго доля праваслаўных вернікаў зь іх сьвятынямі была даражэйшаю за ўласнае жыцьцё.

І вось ён першага травеня 1497 году выехаў з Вільні ў Кіеў. Але да Кіева не даехаў, бо недалёка ад места Мазыра, у вёсцы Скрыгалава, калі ён правіў Божую Службу, на вёску напаў аддзел татараў. „Ратуйцеся дзеці, хто як можа, а мне ня можна, бо я павінен кончыць Службу Божую", былі апошнія словы мучаніка да тых, што прыслугоўвалі яму ў часе Багаслужбы й што сабраліся ў храм, каб памаліцца. Уварваўшыся ў царкву, татары адных пабілі, а іншых узялі ў палон, а сьв. Макараму адсеклі галаву каля сьв. Прастолу, і, магчыма, забралі галаву з сабою, згодна свайго звычаю, як доказ перамогі. Мертвае цела Сьвячэннамучаніка без галавы было прывезена да Кіева, каб заняць месца між сьвятымі Кіева; а мучаніцкая сьмерць сьвятога, як апісвае летапісец, выклікала вялікі сум ў цэлай Мітраполіі. Нятленныя мошчы сьвятога мучаніка былі паложаны ў Кіеве ў Сафійскім Саборы.

Па сьмерці сьв. Макарага Беларуская Мітраполія не зьліквідавалася, і Мітрапалітам быў выбраны смаленскі Епіскап Іосіф Баўгарыновіч, які паходзіў з шляхотнае сям'і й меў спадковую маемасьць у Слуцкім павеце. Наступнікам Мітрапаліта Іосіфа быў Мітрапаліт Іона II — былы, перад пастаўленьнем ў Мітрапаліты, архімандрыт Менскага Ўвазнясенскага манастыра. У 1502 годзе праведзена была хіратонія ў Епіскапы Іосіфа II Солтана, потым Смаленскага Архіепіскапа; у 1508 годзе ён быў пастаўлены ў сан Мітрапаліта а ў 1509 годзе Патрыярх Пахом багаславіў яго на Мітраполію. Былі й іншыя Мітрапаліты, якія разам з Брацтвамі мелі вялікую сілу ў Вялікім Гаспадарстве Літоўскім і праводзілі актыўнае змаганьне з усімі вонкавымі й нутранымі ворагамі праваслаўнае веры.

Бо Хрыстос сказаў: „Ня бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы ня могуць забіць, але бойцеся тых, што могуць і душу й цела загубіць" (Мац. 10-28). Татары забілі цела сьв. Макарага, але душа ягоная адыйшла да Бога й вымаліла нятленнасьць свайму целу. Царква нашая ў асобе сьвятога Макарага мае свайго заступніка перад Богам, а яго нятленныя мошчы сьветчаць, што Ласка Божая не адыйшла ад нас.

І хоць нашая Царква, як нятленнае цела сьв. Макарага, ляжала звыш 300 гадоў без галавы, думка нашага народу — адрадзіць сваю незалежную Царкву — не памерла. Народ наш быў доўга, быццам тыя косьці, што іх бачыў Божы прарок раскіданымі. Але настаў час аднаўленьня ЦАРКВЫ, бо залунаў голас Божы да тых касьцей: „Косьці сухія, выслухайце Слова Божае! Вось Я ўдыхну ў вас дух,

і вы зноў ажывяце. Вось я паадчыняю грабы вашыя й выведу вас, мой народзе, з грабоў вашых і дам вам Духа Майго, і вы зноў ажывяце, і расьсялю вас на зямлі вашай". (Езэк. 37, 4, 5-12).

Пачаткі аднаўленьня Праваслаўнае Беларускае незалежнае Мітрапоіі даў Мітрапаліт Мэлхісэдэк (Паеўскі). Дня 23-га ліпеня 1922 году ў Катэдральным Саборы ў Менску, пры ўдзеле духавенства й мноства народу, быў абвешчаны акт аб стварэньні Мітраполіі з Мітрапалітам Мэлхісэдэкам начале. Воляю Божаю суджана было, аднак, як Мітрапаліту Мэлхісэдэку, так і духавенству адноўленай Мітраполіі, папоўніць лік мучанікаў за сваю Беларускую Праваслаўную Царкву й прыняць сьмерць ад сучасных бязбожнікаў-бальшавікоў.

З Ласкі Госпада Бога Царква нашая паўстала да жыцьця 19-га сьнежня 1949 году, як свая РОДНАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА, якая кіруецца Саборам Епіскапаў, зь якою Беларускі Народ будзе неразлучны. Адроджаная Царква, як частка Ўсяленскае Праваслаўнае Царквы, прытрымоўваецца кананічных асноваў і правілаў Сьв. Апосталаў і Ўсяленскіх Сабораў.

**Арх. Андрэй**

# ДУХОВАЯ ЯКАСЬЦЬ МАЛІТВЫ У ЦАРКВЕ

„Дом Мой ёсьць дом малітвы" (Лук. 19, 46) — сказаў Госпад наш Ісус Хрыстос. Духовая малітва дапаўняецца вонкавымі азнакамі. Паклоны, кленчаньне, хрышчэньне, скланеньне галавы, цалаваньне іконаў — усё гэта азнакі царкоўна-духоўнае дысцыпліны, да якое прыклікае нас Апостал: „Малю вас, брацьці, міласэрдзем Божым, пастаўце целы вашыя ў ахвяру, сьвятую, угодную Богу для разумнага служэньня вашага". Увайшоўшы ў Царкву Божую, кажны павінен вымавіць: „Божа! будзь міласьцівы мне грэшнаму. (Лук. 18, 13)", і пасьля, не сьпяшаючыся, перахрысьціцца. Прыходзячы ў Царкву мы не павінны абмяжоўвацца толькі прысутнасьцю, але дакладна выпаўняць правілы нашае Маткі-Царквы добрапаводжаньня ў часе Багаслужбаў. Асабліва важна гэта ў сяньняшнія часы, калі пачатак адступніцтва акружае нас, а таму Царква Божая ёсьць адзіным збавенным прыпынішчам ад жыцьцёвых бураў і ад ўсяе сучаснай маральнай нячыстасьці.

Царква ёсьць падобнасьць неба на зямлі, бо ў ёй „нявідочна нябесныя сілы служаць". Храм ёсьць Дом Божы, у якім нябачна прысутны Сам Бог, і гэта патрабуе ад нас адпаведнага захаваньня да Яго Сьвятасьці й Велічы. І калі Сам Госпад прыклікае нас да Сябе, то ў Ягоным Доме мы павінны пераняцца духоваю радасьцю й чакаць пацяшэньня ў смутках, быць прасякнутымі малітоўнаю пако-

раю й зьмірэньнем, каб выйсьці з храму апраўданымі.

У чым-жа павінна выяўляцца нашае зьмірэньне й пакора? У пашане й страху Божым, уяўляючы сабе, што Сам Госпад і ўсе сьвятыя глядзяць на нас.

Калі хто спозьніцца й прыйдзе ў царкву ў час, калі адбываецца важнейшая частка Багаслужбы, як чытаньне Евангельля, Херувімская песьня, Сымбаль Веры, Войча Наш, то належыцца затрымацца пры ўваходзе й чакаць канца гэтага чыну, пасьля можна праходзіць, каб заняць сваё месца.

Праходзячы каля Сьвятых Дзьвярэй — затрымацца й перахрысьціцца з паклонам. Калі бацька прыходзяць у царкву зь дзецьмі, то мусяць сачыць за іхнымі паводзінамі і прывучаць да малітвы. Паводля нашае праваслаўна-хрысьціянскае традыцыі не сядзяць у часе Багаслужэньня (за выняткам хворых і слабых). Паданьні прарокаў: Ісаі, Міхея й Данііеля, як таксама Яна Багаслова, сьветчаць, што ў Нябеснай Царкве Сьвятыя стаяць вакол Прастолу Божага. У сьв. Евангельлі маецца канкрэтнае паказаньне Самога Госпада аб стаяньні ў часе малітвы: „І калі **стаіце** на малітве, даруйце, калі што маеце на каго. (Мк. 11, 25). Цэртуліан (у 2-м стагодзьдзі) пісаў: „Асабліва няпрыстойна маліцца седзячы, у той час, як перад Богам стаіць безьліч Ангелаў у страху й трывозе.

Маліцца ў царкве трэба, каб быць фактычным удзельнікам у агульнай малітве. Царква — гэта бытаваньне Ласкі Божае, і мы ў нашай агульнай малітве здабываем сілы для духовага прасьвятленьня. Таму мы мусім услухоўвацца да чытаньня малітваў, а не маліцца пасабе, бо гэта аддаляла-б нас ад Багаслужбы. Царкоўная прысутнасьць зьлівае нас у адзінства агульнае малітвы, „адзінымі вуснамі й адзіным сэрцам" накіроўвае нашую сьведамасьць да Бога-Слова, Хто спасылае нам Ласку Сваю. Адхіленьне нас ад агульнае малітвы Багаслужбы, подля словаў Айцоў, ня мае ніякага апраўданьня. Прыпомнім, што сказаў Госпад: „Добра прарочыў Ісайя, кажучы — людзі гэныя блізкія да Мяне вуснамі сваімі й шануюць Мяне языком; сэрца-ж іх далёка ад Мяне" (Мц. 15, 7-8).

І калі нашая прысутнасьць у царкве ёсьць бязудзельная й няўважная, дык яна далёка адводзіць нашае сэрца ад Бога, што патрэбна ў малельным звароце да Яго. Агульная царкоўная малітва павінна быць дапасаваная да малітоўных правілаў, выконваных у цьвёрда захаванай царкоўнай духоўнай дысцыпліне. Вонкавыя абрады й правілы добразахаваньня пры малітве ў царкве маюць вельмі важнае значэньне. Сьв. Ян Залатавусны гаворыць, што ён часта сваімі духовымі вачыма спасьцерагаў, як Дом Гасподні заўсёды, асабліва-ж у часе Божае Літургіі й Бяскроўнае Ахвяры, поўніцца Ангеламі. Дрэнна, калі людзі ў гэты час шэпчуцца або навет го-

ласна гутараць міжсобку, і гэта тады, калі Сьв. Ангелы з вялікай увагай і маўчаньнем акружаюць Ахвярнік.

Трэба ведаць і памятаць, што малітва ёсьць матка ўсіх дабрадзеяньняў; страта пабожнасьці, дабрачэсьця й дабрапаводжаньня пры царкоўнай малітве ёсьць беспасярэдняй стратай глыбокае й шчырае веры ў Бога. Каб здабыць гэтую набожнасьць і дабрачэсьце ў агульнай царкоўнай малітве, неабходна ўдумоўвацца ў зьмест Багаслужбы, душою ўглыбіцца ў яе й ейны зьмест, бо Багаслужба мае для нас узвышаную й вялікую тайную сілу Ласкі Божае, ачышчае нашае сэрца й розум, умацоўвае нашую волю да тварэньня дабра сваім блізкім, паўстрымоўвае нас ад грэху й спакусаў, спалучае з Небам у адзіным хваленьні Бога. У гэтым выяўляецца дабратлівая духовая якасьць агульнае малітвы.

**а. Васіль**

---

**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

## УЗНАГАРОДНАЯ ГРАМАТА

Міласьцю дару і ўлады, што яе даў нам Сам Вялікі Архірэй Госпад наш Ісус Хрыстос, УЗВОДЗІМ Зьмірэннага Епіскапа Андрэя да Архіпастырскага дастаенства. Аксіос! Аксіос! Аксіос!...

Прызначаем Зьмірэннага АРХІЕПІСКАПА АНДРЭЯ правячым Епіскапам Епархіі БАПЦарквы ў Паўночнай Амэрыцы, Епархіі, якая асірацела пасьля сьмерці ўлюбёнага брата нашага Архіепіскапа ВАСІЛЯ.

Прызначаем Архіепіскапа АНДРЭЯ сакратаром Кансісторыі БАПЦарквы, да выкананьня ўсіх функцыяў, якія былі ўзложаны на Архіепіскапа ВАСІЛЯ.

Айцец, Сын і Дух Сьвяты ў Тройцы Аднаістотнай Непадзельнай няхай узмоцніць і ўразуміць у выкананьні служэньня БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ Зьмірэннага Архіепіскапа АНДРЭЯ.

Дадзена гэтая грамата лета Божага 1970-га дня 28-га ліпеня ў дзень Роўнаапостальнага князя ЎЛАДЗІМЕРА, у Адэляйдзе, у Аўстраліі, у Архіпастырскай рэзыдэнцыі.

**✠ Зьмірэнны Архіепіскап СЕРГІЙ**
Галава Беларускай Аўтакефальнай
Праваслаўнай Царквы на Чужыне.

# ЦУДАТВОРНАЯ ІКОНА СМАЛЕНСКАЕ БОЖАЕ МАЦІ

Смаленская Ікона Божае Маці, званая „Одыгітрыя", ёсьць дакладнай копіяй Іконы, якую напісаў Апостал і Эвангелісты Лукаш.

Пасьля Ўзьнясеньня Госпада нашага Ісуса Хрыста й пасьля Сшэсьця Сьвятога Духа на Апосталаў, сьв. Эвангелісты намаляваў на дошцы вельмі мастацкі Абраз Прасьвятое Багародзіцы. Уладарка Нябесная ўзглянула на свой Сьвяты Абраз і сказала: „Ад сяньня будуць услаўляць мяне ўсе роды", — дадаючы яшчэ — „Ласка мая няхай будзе з гэтай Іконай". Зараз пасьля гэтага ад Абраза пачалі тварыцца дзіўныя й вялікія цуды. Гэты сьв. Цудатворны Абраз сьв. Апостал і Эвангелісты Лукаш паслаў у горад Антыяхію да правіцеля Тэафіла, які ўверыў у Хрыста. Усе хрысьціяне пачалі чэсьціць і шанаваць Цудатворную Ікону Валадаркі Нябеснае. Прайшло шмат гадоў. Гэты сьв. Абраз быў перанесены з Антыяхіі ў Ерусалім. Калі грэцкая царыца Еўдакія была ў Ерусаліме (436-437 г.г.), то ўзяла гэтую Цудатворную Ікону Божае Маці й паслала, як падарунак, сястры сьв. Пульхэрыі ў Царгорадзе. Так сьвятая Цудатворная Ікона Ўсячаснае Дзевы сталася аздобай Царгораду. Гэтаю сьв. Іконаю ацалялася вялікае мноства хворых, асабліва хворых на вочы.

Аднаго разу двум сьляпым зьявілася Прачыстая, прывяла іх да Ўлахернскае Царквы да свае Цудатворнае Іконы, і сьляпыя зараз-жа атрымалі зрок. Вестка аб гэтым цудзе хутка разыйшлася па ўсім горадзе. З гэтага часу вернікі Божыя пачалі называць гэты сьвяты Абраз „Одыгітрыя", ці Пуцяводніца.

У часы цара Іраклія на грэцкую зямлю напалі супольнымі сіламі скіфы й пэрсы ды акружылі Царгорад. Патрыярх Сяргей узяў часныя крыжы, іконы й Цудатворную Ікону „Одыгітрыі", і з гэтымі вялікімі сьвятасьцямі абыйшоў сьцены гораду, сьлёзна молячыся аб выбаўленьні ад ворагаў. Міласьцю Божаю й Царыцы Нябеснае на моры ўзьнялася вялікая бура. Вялічэзныя хвалі затапілі варожыя караблі, а іншыя сілы ў паніцы пачалі ўцякаць.

Прайшло зноў шмат гадоў, калі ў Царгорадзе пачалася іконазмагальная ерась. Багабойныя людзі, каб усьцерагчы ад зьдзеку Сьвятую Ікону „Одыгітрыі", уначы вынесьлі яе з царквы й прынясьлі яе ў манастыр Пантакратар. Тут сьв. Цудатворны Абраз быў схаваны ў сьцяне й перад гэтым месцам гарэла лямпада. Доўгія гады прабыла сьв. Ікона ў сьцяне, пакуль не закончылася жорсткае ганеньне на сьв. Іконы. Лямпада гарэла шматлікія гады перад Цудатворнай Іконай і ня гасла.

У 1453 годзе Царгорад быў падбіты туркамі. Цудатворнае Іконы „Одыгітрыі" не аказалася ў Царгорадзе.

Як-жа аб'явілася Цудатворная Ікона Божае Маці ў Смаленску? У 1046 годзе грэцкі імпэратар Канстантын Манамах выдаваў замуж сваю дачку Ганну за Чарнігаўскага князя Ўсевалада Яраславіча. Выпраўляючы сваю любую дачку ў чужы край, імпэратар Канстантын загадаў напісаць дакладны здымак сьв. Іконы, званае „Одыгітрыя", і гэтай Іконай багаславіў сужэнства цароўны Ганны. З вялікім пачуцьцём сьвятасьці прыняла дачка багаславеньне бацькі. Яна глыбока шанавала гэтую Ікону й заўсёды малілася перад ёю. Перад самаю сьмерцю цароўна Ганна багаславіла свайго сына Ўладзімера гэтаю Іконаю. Князь Уладзімер шанаваў гэты сьв. Абраз, як і ягоная матка. Ён перанёс яго ў горад Смаленск. Там ён паставіў Ікону ў царкве Ўсьпеньня Прасьвятое Багародзіцы, якую пабудаваў у 1101 годзе. З гэтага часу Сьв. Ікона пачала звацца Смаленскай, і сталі тварыцца ад яе шматлікія цуды.

У 1237 годзе, калі вялікае войска Батыя падступіла да Смаленску й гараджане ня бачылі ніадкуль дапамогі, сама Богамаці Одыгітрыя праз свайго воя Мэркурыя выратавала Смаленск.

У часе татарскага нападу Тамэрлана, жонка Вялікага Князя Васіля Зося, прыехала з Масквы, каб пабачыцца з сваім бацькам Вялікім Князем Літоўскім Вітаўтам. Княства Смаленскае належала да Літвы. Вітаўт багаславіў сваю дачку Зосю Цудатворнай Іконай Смаленскае Божае Маці.

Да бязбожнае рэвалюцыі 1917 году у Смаленскім Саборы ў кажны аўторак чытаўся акафіст Божае Маці перад Яе Цудатворнаю Іконаю. Памяць Смаленскае Цудатворнае Іконы Божае Маці сьв. Праваслаўнаю Царквою сьвяткуецца 28-га ліпеня, згодна старога каляндара, або 10-га жнівеня, згодна новага стылю.

**а. Васіль**

## АБ АУТАКЕФАЛІІ РАСЕЙСКАЕ ПРАВАСЛАУНАЕ ЦАРКВЫ У АМЭРЫЦЫ

У часе, калі вяліся перамовы між Маскоўскай Патрыярхіяй і Мітраполіяй Расейскае Праваслаўнае Грэка-Кафалічнае Царквы Амэрыкі ў справе наданьня Аўтакефаліі Расейска-Амэрыканскай Царкве, — у тым-жа часе справа Аўтакефаліі востра дыскутавалася ў прэсе, асабліва расейскай эміграцкай, таксама й сярод зацікаўленага сьвятарства. Выказваліся паважныя засьцярогі й перасьцярогі супроць прыняцьця Аўтакефаліі ад Маскоўскага Патрыярха.

Яго Сьвяцейшасьць Патрыярх Канстантынопальскі Атэнагор выступіў катэгарычна супроць гэтае Аўтакефаліі адмысловым Пасланьнем да Патрыярха Маскоўскага Аляксея. У пасланьні між іншым гаворыцца:

...,,Пакуль мы наджыдалі, што пачатыя перамовы, адпаведна глыбокай асьцярожнасьці Вашай Сьвяцейшасьці, пойдуць у сьвятаблівым і мірным кірунку, мы й наш Сьвячэнны Сінод, на дзіва нашае й на вялікі жаль, нядаўна атрымалі паведамленьне з дакладаў нашага Высокапраасьвячэньнейшага Архіепіскапа Паўночнае й Паўднёвае Амэрыкі Якаваса, што прадстаўнікі Вашага Сьвяцейшаства вядуць перамовы з прадстаўнікамі Мітраполіі з мэтай абвешчаньня гэтай Царквы Аўтакефальнаю . . .''

,,Мы ўважаем за непатрэбнае й лішняе пералічаць падрябязна згубныя вынікі, да якіх магло-б давесьці ператварэньне гэтых замераў у дзеяньні Сьвятой Расейскай Царквы . . .''

,,У тыя дні, калі так шмат высілкаў пакладаецца дзеля таго, каб вытварыць сьвячэнную адналітнасьць сярод Праваслаўя; і сьпіскі пытаньняў, што датычаць усяе Праваслаўнае Царквы ў расьцярушаньні наагул, уключаючы Аўтакефалію, пададзены да вывучэньня й канчальнага зацьверджаньня Свячэнным і Вялікім Саборам, — мы без сумляваньня ўважаем, што абгаворваны плян у справе Мітраполіі зьмяшчае ў сабе вялікія небясьпекі, і калі-б быў зьдзейсьнены, падарве супольныя гарманійныя міжцаркоўныя высілкі ў справе падрыхтовы Сабору'' . . .

,,Дзеля гэтага, глыбока заклапочаныя адзінствам нашых Праваслаўных Цэркваў і праяўленьнем адзінства кажнае Царквы, цьвёрда прастуючы шлях да Вялікага Сабору й маючы перакананьне, што Вашая Сьвяцейшасьць, вельмі намі ўмілаваныя, маеце такія самыя думкі й такія самыя намеры, мы пішам Вам, згодна пастановы нашага Сьвячэннага Сіноду. І чынячы гэтае мы патрабуем ад Вас і Вашай Царквы, каб узважыўшы акалічнасьць і вынікаючую адсюль адказнасьць, Вы не дазволілі-б, у імя агульнага дабра, каб справа прасовалася далей, але каб намечаныя пляны былі адкліканыя.''

,,Калі-ж Сьвятая Расейская Царква насуперак нашай брацкай засьцярогі й парадаў ды насуперак усякае надзеі будзе далей зьдзейсьніваць намераныя пляны й абвесьціць Аўтакефалію Расейскай Праваслаўнай Мітраполіі ў Амэрыцы, — тады гэты Прастол (Канстантынопальскі) ня прызнае таго дзеяньня й ня ўпіша тае царквы ў ,,дытрыхі'' Сьвятых Праваслаўных Аўтакефальных Цэркваў. Згодна гэтага мы адзначылі-б тую Царкву, якую Вы хочаце абвесьціць аўтакефальнаю, як неканані́чную, і наш Прастол прыняў-бы другія захады, неабходныя дзеля забясьпечаньня кананічнага парадку . . .''

Сваім Пасланьнем Патрыярх Атэнагор папераджаў Патрыярха Аляксея, што ўнясеньне ў сьпісак Аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў Амэрыканскае Мітраполіі й зацьверджаньне яе Маскоўскай Патрыярхіяй было-б аднабочным, а доля ўсіх Праваслаўных Цэрк-

ваў на амэрыканскім кантынэньце можа вырашацца толькі за згодаю ўсіх Праваслаўных Цэркваў.

У Канстантынопалі гэты аргумэнт абгрунтоўваюць на 28 правіле Халкедонскага Сабору, які адбыўся ў 451 годзе. Подля гэтага правіла Канстантынопальская Патрыярхія мае юрыдычныя правы на ўсе тэрыторыі пазамежамі тагачаснага хрысьціянства, і толькі Канстантынопальская Патрыярхія мае права надаваць іншым Цэрквам статус незалежнасьці, ці аўтакефалію.

Не зважаючы аднак на засьцярогі Канстантынопальскага Патрыярха, выказаныя ім у пасланьні, Маскоўскі Патрыярх Аляксей сваім Томасам з 10-га красавіка 1970 г. Амэрыканскую Аўтакефалію зацьвердзіў.

Як выглядае з прэсы, становішча Патрыярха Атэнагора падтрымала Баўгарская Праваслаўная Царква й Праваслаўная Царква ў Грэцыі. У Амэрыцы супроць наданьня Аўтакефаліі ў вострай палеміцы выказаліся: Мітраполія Расейскае Зарубежнае Царквы, Мітраполія Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы, Архіепіскап Якавас, экзарх Грэцкае Праваслаўнае Царквы ў ЗША, выказаў з гэтае прычыны прыгнечанае зьдзіўленьне.

Мітрапаліт Хрызастомас, прафэсар Халскай Духоўнай Акадэміі, сказаў, што Маскоўская Патрыярхія зламала пастанову з 1961 году, паясьняючы гэта тым, што наданьне Аўтакефаліі Канстантынопальскай Патрыярхіяй заўсёды адбывалася ў паразуменьні зь іншымі аўтакефальнымі цэрквамі і што гэта пацьверджана Праваслаўнай Канфэрэнцыяй на абтоку Радос у 1961 годзе.

Сьвячэнны Сабор Епіскапаў БАПЦарквы на сваёй нарадзе 27-га сакавіка 1970 г. заняў таксама нэгатыўнае становішча да аўтакефаліі Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы, атрыманай ад Маскоўскай Патрыярхіі, і цалкам пагаджаецца з пастановаю Ўсяленскага Патрыярха Атэнагора.

## САБОР ГРЭЦКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

4-га ліпеня 1970 г. закончыўся 20-ты Сабор Грэцкае Праваслаўнае Царквы Паўночнае й Паўднёвае Амэрыкі, які трываў цэлы тыдзень. На Саборы прысутнічала каля тысячы дэлегатаў. У абодвых Амэрыках налічваецца 1,8 мільёна праваслаўных Грэкаў.

На Саборы разглядаліся 2 асноўныя пытаньні: 1) аб дазволе правіць царкоўную службу на іншых мовах, 2) рэвізія агульнага тэксту Багаслужбаў, які аставаўся нязьменным ад часу ўпадку Бізантыйскай Імпэрыі, г. зн. ад 1453 году.

Згодна пастановы Сабору, правядзеньне службаў на іншых мовах у паасобных прыходах павінна ўзгадняцца з прыхаджанамі

пасьля кансультацыі з правячым Епіскапам і пасьля ягонага зацьверджаньня. Пастанова Сабору павінна быць зацьверджана Патрыярхам Атэнагорам.

Пераклад на ангельскую мову ўжо робіцца й мае закончыцца ў гэтым годзе.

Другое пытаньне — рэвізія грэцкага тэксту Літургіі — больш складанае й займе некалькі гадоў працы. Дзеля гэтага выбрана адмысловая камісія.

Подля заявы іерэя Патрынакоса, будуць запрошаныя й прадстаўнікі іншых праваслаўных цэркваў. Былі прычыны дзеля таго, што рэвізія тэкстаў ня зробленая была раней, а галоўная, — што грэцкая Літургія была астоем і Царквы й народу ў цяжкія часы турэцкага ўціску. **а. Васіль**

### Патрыярх Атэнагор супроць пастановаў 20-га Кангрэсу

Як падае Украінскі часапіс „Вісник” за 25 кастрычніка г. г., Канстантынопальскі Патрыярх Атэнагор адмовіўся зацьвердзіць дамаганьні Грэцкай Праваслаўнай Архідыяцэзіі ў Амэрыцы шырэйшае аўтаноміі і ўвядзеньня іншых моваў у Багаслужбы.

Пастанова 20-га Кангрэсу аб ужываньні ў Багаслужбах ангельскай і іншых моваў і рэзалюцыя Кангрэсу аб большым унезалежненьні Архідыяцэзіі ад Канстантынопальскай Патрыярхіі выклікала непакой ня толькі сярод грэкаў у ЗША, але і ў Грэцыі.

Патрыярх Атэнагор у сваім лісьце да Архіепіскапа Якаваса падкрэсьліў, што прычынаю непакою была недакладная інтэрпрэтацыя рэзалюцыі 20-га Кангрэсу. Але адначасна Патрыярх заявіў, што пастановы Кангрэсу разглядаў Сьвячэнны Сынод Патрыярхіі, які складаецца з 12 Мітрапалітаў пад кіравецтвам Патрыярха; Сынод „афіцыйна сьцьвердзіў і падкрэсьліў, што існуючыя пастановы пра мову Багаслужбаў і кіравецтва Архідыяцэзіі, застаюцца далей непарушнымі; і пастановы самой Архідыяцэзіі сьцьвярджаюць, што яна адміністрацыйна цалком залежная ад нашага Сьв. Апостальскага Ўсяленскага Прастолу, і ёсьць ягонаю правінцыяй”.

Патрыярх Атэнагор прыпомніў, што багаслужбоваю моваю Архідыяцэзіі ёсьць мова грэцкая, як гэта сьцьвердзіў 17 Кангрэс 1964 г. Прыпомніў таксама аб заданьнях Архідыяцэзіі: што яна забавязаная зьберагаць Праваслаўную Веру, аснованую на аўтарытэтных нормах Праваслаўя, „як і практыкуе Вялікая Хрыстовая Канстантынопальская Царква”.

„Пастановы аб літургічных зьменах павінны быць прапанаваныя Патрыярхіі”, — піша Архіепіскапу Якавасу Патрыярх Атэнагор: — каб Царква-Маці, магла імі кіравацца, студ’юючы й пера-

глядаючы гэтае пытаньне, якое ёсьць у праграме будучага Сьвятога й Вялікага Ўсеправаслаўнага Сабору". Дакладная дата Сабору яшчэ не абвешчана.

## АБ МЯШАНЫХ СУЖЭНСТВАХ

Жыцьцёвыя абставіны на эміграцыі, а перадусім тут у Амэрыцы, спрыяльна дзейнічаюць для ўступленьня моладзі ў мяшаныя сужэнствы, — мяшаныя ў сэньсе нацыянальным ці рэлігійным.

Ужо на самым пачатку пры мяшаных сужэнствах паўстаюць розныя камплікацыі: жаданьне кажнага з сужонкаў застацца пры сваёй веры, спрэчкі, у якой царкве браць шлюб, ці то жаданьне, каб, скажам, праваслаўны сьвятар выканаў шлюб разам з сьвятаром іншае рэлігіі, ці то каб па шлюбе атрымаць яшчэ дабраславенства сьвятара іншае рэлігіі, або, каб памінуць спрэчкі, — ніяк ня браць шлюбу. Шмат ужо здараецца выпадкаў, калі сужэнцы зусім адкідаюць патрэбу царкоўнага шлюбу ды абмяжоўваюцца толькі рэгістрацыяй у цывільных урадах. Пры мяшаным сужэнстве нацыянальным узьнікаюць нязгоды з прычыны бытавога ўкладу жыцьцёвага.

Такое лёгкае трактаваньне гэтае важнае жыцьцёвае падзеі крые ў сабе зародкі сямейных няладаў, нязгод, сварак, неспакойнага, нямілага жыцьця, а то й развалу сям'і.

Ужо не даводзіцца й дзівіцца, што дзеці ад гэткіх сужэнстваў ня могуць быць выхаваны ні ў нацыянальным ні ў рэлігійным духу. А ці ня спрычыняюцца гэтыя мяшаныя сужэнствы да такога страшнага пашырэньня праступства ў нашыя часы? А ці не ствараюць яны падатны грунт дзеля ўзьнікненьне такіх ад'емных грамадзкіх зьявішчаў, як зьяўленьне „Хіпі"?

Сям'я — гэта свой асобны сьвет, у якім жыцьцё можа быць лагоднае, мілае, або можа быць затручанае.

На месцы-ж тут будзе адзначыць і прыпомніць, што ўсе гэтыя людзкія жаданьні й камбінацыі абгрунтоўваюцца на неўласьцівых тэндэнцыях. Яны ня лічацца з хрысьціянскімі запаветамі й хрысьціянскаю навукаю й нязгодныя з законамі — канонамі царкоўнымі. Яны абніжаюць значэньне Таінства шлюбу, затое аблегчваюць уваход у жыцьцё ўсяго дрэннага, злога й шкоднага.

Пытаньні мяшаных сужэнстваў становяць цяпер важную праблему ў Амэрыцы. Розныя рэлігіі чыняць стараньні, каб мяшаных сужэнстваў было, прынамся, якнайменш.

Ёсьць дадзеныя ў пратэстанцкіх цэрквах, што лік разводаў пры мяшаных сужэнствах пратэстантска-каталіцкіх у тры разы большы, як ў самых пратэстанцкіх, і што мяшаныя сужэнствы адмоўна дзейнічаюць на духовае сужыцьцё ў сям'і.

Сярод беларускага грамадзтва на эміграцыі праблемы мяшаных сужэнстваў трэба залічыць да асабліва адмоўных зьявішчаў. У шматлікіх выпадках жанімства Беларуса зь іншанацыянальнаю дзяўчынаю цягне за сабой дэнацыяналізацыю, а потым і адыход ад царквы; пагатове гэта станецца, калі Беларуска ўступае ў сужэнства зь іншанацыянальным сужонкам.

Усё гэта выглядала-б іначай, калі-б моладзь узгадоўвалася ў сьведамасьці, што мяшаныя сужэнствы непажаданыя, шкодныя, калі-б больш шанаваліся хрысьціянскія запаветы, а таксама законы царкоўныя. Тады-б увага моладзі скіроўвалася-б перадусім у сваё серадовішча, тады-б лягчэй падбіраліся пары сваіх маладых, з чаго была-б лепшая ўцеха для іх самых у іхным сямейным жыцьці, а таксама й для грамадзтва й для Царквы.

На вялікі жаль сьведамасьць гэтая ў вялікай меры абнізілася ў самых бацькоў, і недастаткова ацэньваецца й шануецца сьвятое Таінства шлюбу.

---

# ПАСТАНОВЫ

**Восьмае Нарады Сьвячэннага Сабору Епіскапаў БАПЦарквы, праведзенай 19-га чэрвеня 1970 году ў Спрынгфільдзе ў Штаце Массачузэтс, пры ўдзеле Уладыкі Андрэя, Уладыкі Мікалая і а. Васіля Кендыша.**

1. Прыймаецца да выкананьня зацьверджаная пастанова Сьв. Сабору Епіскапаў ад 16-га чэрвеня 1970 г., што кіравецтва Епархіі на на ЗША й Канаду пераймае Прааасьвячэньнейшы Епіскап Андрэй, а Ўладыка Мікалай становіцца Апякуном Парафіі й Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.
2. Разгледжана кандыдатура дыякана Карпа Стара на пасьвячэньне ў сан Іерэя. Чын пасьвячэньня выканае Епіскап Мікалай дня 21-га чэрвеня 1970 г.
3. Апякуном прыходу ў Брукліне становіцца Ўладыка Мікалай і ў дапамогу яму прызначаецца нова-пасьвячаны а. Карп. Стар.
4. Настаяцелем Прыходу Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлянд Парку будзе надалей а. Васіль Кендыш.
5. Пастаноўлена ў далейшым выдаваць ,,Голас Царквы'' і паклікаць Рэдакцыйную Калегію ў наступным складзе: Міхася Міцкевіча, Пётры Манькоўскага, Янкі Запрудніка, Мікалая Гарошкі, Міхася Тулейкі.
6. Паведаміць ўсе Праваслаўныя Цэрквы аб сьмерці Сьв. памяці Архіеп. Васіля і аб новым Кіравецтве Епархіі.

За згоднасьць з пратаколам —
сакратар **а. Васіль**

# ЮБІЛЕЙНЫ ГОД У КЛІУЛЕНДЗКАЙ ПАРАФІІ

Кажная парафія штогоду ўрачыста адзначае сваё парафіяльнае сьвята ды іншыя прыпадаючыя юбілеі. Вернікі парафіі ў гэтыя дні адчуваюць сябе бліжэйшымі й раднейшымі сябрамі аднае вялікае сям'і.

Асабліва знаменным і памятным застанецца гэты 1970 год, юбілейны год Патронкі Парафіі ў Кліўленьдзе — Жыровіцкае Божае Маці. З увагі на гэтае Сьвята вернікі, апрача ўзьнёслых малітваў да Маці Божае, шчыра й з ахвотаю папрацавалі ў Царкве, аздабляючы Дом Божы.

Нававыбраная Парафіяльная Рада рупна ўзялася за працу. Былі зроблены патрэбныя рэмонты, неабходныя аднаўленьні, упарадкавана царкоўная маемасьць; таксама выкананы аднаўленьні звонку царкоўнага дому й памаляваныя ўсе пакоі ўнутры дому.

Сябры Парафіяльнае Рады й парафіяне выявілі вялікую ахвярнасьць у аплаце ўсіх выездаў: у Нью Ёрк, Нью Джэрзі і ў Канаду ў часе юбілейных сьвяткаваньняў, а таксама на паховіны Сьв. Памяці Ўладыкі Васіля ды іншыя выезды. Усё гэта пакрывалася асабістым коштам вернікаў, а не з царкоўнае касы. Усе ладжаныя юбілейныя сьвяткаваньні, імпрэзы, пікнікі й абеды праводзіліся з разьлікам, каб папоўніць парафіяльную касу. Гаспадарка Парафіі вялася рупна й плянова. Вернікі дбалі пра дабро царквы ня менш як пра сваё дабро асабістае.

Выкарыстоўвалася кажная нагода для лучнасьці з суседнімі Праваслаўнымі Цэрквамі, як і для шырэйшай веды пра нашую БАП-Царкву. Праводзілася гэта праз удзел на Багаслужбах з Украінскімі й Сэрбскімі сьвятарамі, як і праз удзельнічаньне на паседжаньнях і прыняцьцях з нацыянальнымі і ўрадавымі чыньнікамі.

Дзякуючы ахвярнасьці Беларускага Жаночага Згуртаваньня, Аддзелу ў Кліўленьдзе, Царква ўпрыгожылася 5-ма новымі аналойчыкамі й дзьвюма падстаўкамі для харугвяў.

Да найважнейшых падзеяў у Парафіі Кліўлендзкай належыць абвешчаньне Царквы Жыровіцкае Божае Маці Катэдральным Саборам. Згодна распараджэньня Архіепіскапа Сергія — Першаерарха БАПЦарквы, — ад часу, калі кіравецтва Епархіяй пераняў Уладыка Андрэй, па сьмерці Сьв. Пам. Уладыкі Васіля, Царква Жыровіцкае Божае Маці сталася Катэдральным Саборам — цэнтрам Епархіі на Амэрыку, Канаду й Эўропу.

Гэтую важную царкоўна-гістарычную падзею парафіяне выказваюць у словах: „Ад чужое залі да ўласнага Катэдральнага Сабору". Як ведама заснаваньне й адкрыцьцё парафіі ў Кліўленьдзе адбылося ў нанятай залі на 14-тай вуліцы ў 1951 годзе. У 1957 годзе

быў набыты пляц з домам, а ў 1959 годзе была ўжо распачатая будова ўласнае Царквы, і ў 1960 годзе новая прыгожая мураваная Царква была высьвячаная.

Пра высьвячэньне Царквы Уладыка Васіль у сваіх успамінах напісаў: ,,О Божа, Ты Адзіны, Добры, Магутны, Міласэрны! Зь якою радасьцю я высьвячаў слаўную Нявесту Тваю, Сьвятую Царкву Тваю й нашую! Зь якою радасьцю я чытаў малітву высьвячэньня. І я спадзяюся, што Ты, Міласэрны Божа, не пакінеш гэтую Нявесту Тваю бяз Ласкі Свае й паможаш братом і сёстрам маім у Кліўленьдзе, каб гэтая Сьвятая Твая й нашая Царква ўзрастала, узмацнялася, красавала, Сьвятлом Тваім зьзяла, усіх нас на шлях Праўды Твае настаўляла, да неба вяла, і Прачыстую Жыровіцкую Маці Божую з пашанай і любоўю вялічала . . .”

**Ул. Андрэй**

# ХРОНІКА

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ БАПЦАРКВЫ Ў 500-Я ЎГОДКІ ЗЬЯЎЛЕНЬНЯ ЦУДАДЗЕЙНАГА АБРАЗА БОЖАЕ МАЦІ Ў ЖЫРОВІЦАХ

Прагалошваючы 1970-ы год Юбілейным Годам 500-х угодкаў зьяўленьня Сьвятога Абраза Божае Маці ў Жыровіцах, Сабор Епіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на нарадзе 26-27 сакавіка сёлета пастанавіў зьвярнуцца да сьвятарства й вернікаў, каб гэты Юбілей быў адзначаны якнайбольш урачыста. Дзеля зьдзейсьненьня гэтага пастаноўлена ўрачыстыя Багаслужбы адпраўляць па ўсіх парафіях з удзелам большага складу сьвятарства і з добра падрыхтаванымі казаньнямі, рэфэратамі, урачыстымі акадэміямі, прысьвечанымі гэтаму вялікаму здарэньню.

***

Першая ўрачыстасьць адбылася дня 10-га травеня ў **Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку.** Сьвятую Літургію й Малебен адправіў Высокапраасьвячэньнейшы Архіепіскап Васіль з дыяканам Карпам. На Божай Службе прысутнічала лічнейшая, як калі, грамада вернікаў, бо апрача парафіянаў з Нью Ёрку было шмат парафіянаў з Нью Джэрзі. У часе Багаслужбы ў царкве адчувалася запраўды належная сьвяту ўрачыстасьць і малітоўнасьць.

Пасьля Багаслужбы наступнаю часткаю сьвяткаваньня было выступленьне вучняў Нядзельнае Школы, прысьвечанае Дню Маці, у падрыхтоўцы й пад кіравецтвам настаўніцы Натальлі Орса, якое праводзілася ў залі Грамадзкага Цэнтру.

Апошняю часткаю ўрачыстасьці была супольная бяседа за багата застаўленымі сталамі, у часе якой выглашаліся прамовы, прысьвечаныя 500-тым угодкам Аб’яўленьня Маці Божае ў Жыровіцах.

У гэтым часе ўдзельнікі ўрачыстасьці з цікавасьцю аглядалі выстаўку нашываных дываноў, работы Эльзы Вярбіцкай.

***

**У Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку** ўрачыстае сьвяткаваньне адбылося 16-17 травеня. Вячэрню адправіў Уладыка Мікалай з Таронта ў суслужэньні а. Віктара.

Пасьля Багаслужбы парафіянін А. Дубяга высьветліў у Царкоўнай залі некалькі фільмаў з жыцьця Парафіі.

У нядзелю, 17-га травеня, яшчэ зрана, незважаючы на няспрыяльную дажджлівую пагоду, Царква была перапоўненая вернікамі. Апрача мясцовых парафіянаў было шмат гасьцей з Нью Ёрку й Таронта.

Урачыстую Багаслужбу ачольваў Уладыка Васіль у асысьце Ўладыкі Мікалая й а. Віктара.

Пасьля Багаслужбы й захапляючай казані Ўладыкі Васіля адбылася агульная бяседа. Сьвятарства й гасьцей прывітаў Старшыня Парафіяльнае Рады В. Дубяга. Потым прамаўлялі: Др. Я. Запруднік, Інж. М. Гарошка, А. Шукелайць, Б. Кірка. Інж. Русак вітаў гасьцей ад імя мясцовае Парафіі й прачытаў пісьмовыя прывітаньні: ад Архіепіскапа Горадзенска-Наваградзкага й Кліўлендзкага Андрэя й ад. а. Васіля Кендыша.

Рэфэрат пра зьяўленьне Цудадзейнага Абраза Божае Маці ў Жыровіцах прачытаў а. Віктар. Застольная бяседа прайходзіла ў мілым сяброўскім настроі, а таму пасьля заканчальнай малітвы прысутныя яшчэ доўга не разыходзіліся, дзелячыся ўспамінамі з сябрамі й знаёмымі.

***

**Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе** сьвяткавала 500-ыя ўгодкі Аб'яўленьня Абраза Божае Маці ў Жыровіцах у спалучэньні з сьвягам патранальным. Урачыстасьць адбывалася 23 і 24 травеня.

З увагі на паважанасьць і ўрачыстасьць падзеі на сьвяткаваньне былі запрошаныя: Уладыка Мікалай з Таронта, пратаерэй Міхаіл Мігай і пратаерэй Леонці Фарасьціўскі з Украінскае Праваслаўнае Царквы.

У сыботу 23 травеня а сёмай гадзіне ўвечары была адпраўлена Вячэрня з Ліціёю. У нядзелю 24-га травеня была адслужана Сьв. Літургія й Малебен. Пры сьвятым Прастоле маліліся: два Епіскапы, два протаерэі й два дыяканы. У часе Багаслужбы малітоўны настрой стварыў прыгожы мэлёдыйны сьпеў хору. Малебен быў адслужаны ў часе працэсіі навакола Царквы з прачытаньнем чатырох Эвангельляў.

Прачулае казаньне сказаў Уладыка Андрэй.

У часе бяседы, якая адбылася адразу пасьля ўрачыстае Багаслужбы ў Царкоўнай залі, было шмат прамоўцаў. З прыемнасьцю слухалі прысутныя прыгожыя рэлігійныя песьні з кружэлкаў.

***

**У Таронта ў Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага** 500-ыя ўгодкі зьяўленьня Абраза Богамаці ў Жыровіцах сьвяткаваліся ў спалучэньні з сьвятам свайго патрона Сьв. Кірылы Тураўскага.

У сыботу 30-га травеня а 6-ай гадзіне вечара Ўладыка Андрэй з Кліўленду ў асысьце пратаерэя Міхаіла Мігая й дыякана Міхаіла Страпко адслужыў Вячэрню з Ліціёю.

У нядзелю 31-га травеня Архірэйскую Багаслужбу ачоліў Уладыка Андрэй. Сустрэлі Ўладыку перад Царквой дзяўчаткі Галіна й Люся Сільвановіч, а парафіянін Багдан спаткаў з хлебам і сольлю. Пры ўваходзе ў Царкву Ўладыку прывітаў а. Міхаіл, а пры амвоне Ўладыка Мікалай.

Пасьля сьв. Літургіі Ўладыка Андрэй пасьвяціў нованабыты Абраз Сьв. Кірылы Тураўскага, ды адслужаны быў Малебен Удзячнасьці да Прасьвятой Багародзіцы. Па Малебне была адслужана Паніхіда па сьв. пам. Прэзыдэнту Міколу Абрамчыку й па загінутых у Ліенцы Казакох.

Наступнаю часткаю ўрачыстасьці быў супольны абед у залі Грамадзкага Цэнтру, на якім прысутнічала каля сотні асоб.

Рэфэрат пра Сьв. Кірылу Тураўскага падрыхтавала Д-р Раіса Жук-

Грышкевіч, прачытаў Д-р В. Жук-Грышкевіч. Рэфэрат пра зьяўленьне Абраза Богамаці ў Жыровіцах прачытаў М. Ганько. Абед па шматлікіх прамовах і пажаданьнях закончыўся малітваю Ўладыкі Андрэя.

***

Годна і ўрачыста адзначыла 500-ю гадавіну Аб'яўленьня Цудадзейнага Абраза Маці Божае ў Жыровіцах **Парафія БАПЦарквы Сьв. Антона, Яна й Эўстафа** ў Мэльбурне, у Аўстраліі, начале з сваім Настаяцелем пратаерэем айцом Аляксандрам Кулакоўскім.

***

Міласэрны Госпад Бог наш шчодра пабагаславіў высілкі нашых суродзічаў у Англіі, каб зьберагчы сябе ў веры й нацыянальна, каб падзяліцца зь іншымі народамі сваёю творчасьцю, як яны дзеляцца з намі, і аднавіў там наш нацыянальны й рэлігійны скарб — Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Сучасны яе Настаяцель а. Ян Абабурка разам з непахіснымі ў рэлігіі вернікамі, па ўсіх абслугованых беларускіх асяродках у шчырых малітвах праслаўляў Прасьвятую Багародзіцу й Ейны Цудадзейны Абраз, што зьявіўся ў Жыровіцах перад 500 гадамі.

Усюды ўзносіліся ўзвышаныя малітвы пастыраў і вернікаў да Ўладаркі Беларусі Божай Маці, бо Яна-ж — Адзіная, Чыстая, Звышуслаўленая, Цудадзейная, Багадосная, — зьявілася Беларускаму народу ў Жыровіцах.

***

## НОВЫ СЬВЯТАР БАПЦАРКВЫ

У нядзелю 21-га чэрвеня сёлета дыякан Карп Стар быў рукапалажаны ў сан іерэя. Рукапалажэньне адбылося ў Катэдральным Саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне — Нью Ёрку. Чын рукапалажэньня выканаў Прааcьвячэньнейшы Мікалай — Епіскап Тураўскі й Таронцкі, пры асысьце а. Віктара.

Айцец Стар сын Міхася й Сьцепаніды, нарадзіўся 23-га травеня 1913 году ў Беларусі. Пасьвячэньне ў дыяканы прыняў 10-га жнівеня 1969 году ад Архіепіскапа Васіля. Служыў у Саборы ў Брукліне аж да рукапалажэньня ў іерэі, дзе й цяпер выконвае душпастырскія абавязкі.

Дастойнаму а. Карпу й матушцы Вользе жадаем посьпеху ў выкананьні абавязкаў Службы Богу й Беларускаму Народу й задаваленьня ў працы й жыцьці.

***

У 1971 годзе споўніцца 680 год ад часу заснаваньня Беларускае Аўтакефальнае Мітраполіі ў Навагрaдку ў 1291 годзе. Першым Навагрaдзкім Мітрапалітам быў ФЕАФІЛ — грэк. Прыслаў яго ў Навагрaдак Патрыярх Афанасі і на просьбу тагачаснага Літоўскага князя Віценя зацьвердзіў Навагрaдзкую Праваслаўную Мітраполію, прызначаючы ёй 82-е месца ў Патрыяшай Радзе.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на экзылі павінна гэты юбілей ў 1971 годзе ўрачыста адзначыць, як важную падзею прызнаньня праз Усяленскага Патрыярха незалежнае Беларускае самастойнае Мітраполіі.

***

Згодна перапісу, ў 1970 годзе лічба насельніцтва Злучаных Штатаў Амэрыкі павялічылася на 14,2% і ў сучаснасьці налічваецца 205 мільёнаў. Лік насельніцтва ў Нью Ёрку амаль не зьмяніўся й складаецца з 7.771.730 асоб.

## КАЛЯДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ

*Уладыкаў нашых Высокапраасьвячэньнейшых Архіепіскапаў*

*СЕРГІЯ й АНДРЭЯ,*

*Праасьвячэньнейшага Епіскапа*

*МІКАЛАЯ,*

*усечаснае Сьвятарства, дастойных Рэгентаў і Харыстых,*
*Хвальныя Парафіяльныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы,*
*навуковыя й грамадзкія Установы, усіх вернікаў БАПЦарквы,*
*Беларускую Моладзь, чытачоў „Царкоўнага Голасу"*
*і ўвесь наш Беларускі Народ вітаем*

*З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ*

*і з новым 1971 годам!*

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — ЯГО СЛАЎЦЕ!

Епархіяльная Ўправа БАПЦ на Амэрыку й Канаду

### ЦІ ДУХОВЫ КРЫЗІС?

Рычард Гофстадтэр, прафэсар гісторыі Колюмбійскага Унівэрсытэту, адказваючы на пытаньне карэспандэнтам: ці перажывае Амэрыка духовы крызіс? — адказаў: „Мне здаецца, што так. Перадусім ён праяўляецца ў нежаданьні моладзі знайсьці сваё пакліканьне, рабіць нешта акрэсьленае, і рабіць добра, незалежна ад таго, да чаго ты імкнешся: ці стацца цесьляром, ці быць сябрам Найвышэйшага Суду ЗША.

Жаданьне добра, памайстэрску рабіць сваю справу, пачуцьцё да пакліканьня праз даўжэйшы час было моцным у гэтым краі, але за апошнія дзесяць-дваццаць гадоў усё відавочна ідзе да ўпадку. Розум моладзі нікому не падпарадкуецца, і яна ня хоча заняцца чым небудзь паважным. Наша культура страціла былую ранейшую здольнасьць пераказваць з пакаленьня ў пакаленьне пасьлядоўнасьць да канкрэтнага дзеяньня. У гэтым, на мой пагляд, і захавана прычына незадаваленьня студэнтаў. Яны ў гэтай справе гавораць, што ня ведаюць, пашто ім патрэбны калэджы.

***

### ГІПІСТЫМ ЗАБАРОНЕНЫ ЎСТУП НА АФОН

Згодна прэсавых вестак, манахі на гары Афон пастанавілі не дапускаць да сваіх сьвятых месцаў паломнікаў гіпістых. Ігумен Афонскага манастыра сказаў, што мужчыны з доўгімі валасамі й неахайнага выгляду, як паломнікі, на Афоне непажаданыя. Гэтая забарона не датычыць манахаў і наагул духоўных асоб, якія звычайна на ўсходзе маюць бароды й доўгія валасы.